# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 36 (2334) 9 верасня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.


З ВІЛЬНІ Ў МІНСК РАЗАМ З ПАЛОМНІКАМІ

## БЕЛАРУСКАЯ СВЯТЫНЯ НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Сярод "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі", якія друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах, было пытанне: хто такія тры Віленскія пакутнікі?

Гэта першыя беларускія святыя, якія служылі ў дворскай дружыне князя Альгерда ў Вільні. Яны мелі паганскія імёны Круглец, Няжыла і Кумец. Пасля хрышчэння і прыняцця праваслаўнай веры яны атрымалі імёны Антоній, Іаан і Яўстафій. У 1347 годзе яны загінулі пакутніцкай смерцю за веру Хрыстову. На месцы смерці праваслаўных у Вільні сярод Базыльянскіх муроў стаіць славутая Свята-Троіцкая царква. Туды і накіравалася група паломнікаў Праваслаўнага брацтва трох Віленскіх мучанікаў. Я была сведкай падзеі, якую назвалі потым гістарычнай, і прайшла напрыканцы ліпеня шлях разам з паломнікамі, якія перанеслі часцінкі мошчаў трох Віленскіх пакутнікаў з Вільні ў Мінск у Свята-Петрапаўлаўскі сабор, пры якім створана і дзейнічае праваслаўнае брацтва.

Кажуць, што ў добрых справах Бог памагае.

Пралïўныя дажджы ішлі некалькі дзён запар, вісела шэрая завеса хмар, неба плакала, і не было ніякага спадзявання, што гэта чарговае паломніцтва не будзе самотным. Аднак цеплілася надзея, што адбудзецца цуд, бо сама падзея заслугоўвала міласці Божае.

Пахмурнаю раніцай некалькі аўтобусаў з вернікамі выехалі насустрач асвячонай іконе ў Ашмяны. У саборы адбыўся малебен і хрэсны ход з паломнікамі, якія прыехалі з Мінска. У Ашмянах да прыхаджан звярнуўся з пропаведдзю настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора Мінска, протаіерэй айцец Георгій (Латушка). Ён сказаў:

— Так Бог даў, і Віленскія мучанікі, беларускія святыя, мошчы іхнія, зараз апынуліся на беларускай зямлі і будуць ужо ў Мінску знаходзіцца. Можна будзе прыйсці і малітву стварыць, і пакланіцца святым мошчам Віленскіх мучанікаў, якія сваёй мужнасцю, сваёй цвёрдасцю веры, стаяннем у праваслаўі якраз і явілі гэтую веру не на словах, а на самай справе, у сваім жыцці.

Дай, Божа, і нам таксама трымацца святой праваслаўнай веры, благачэсця нашага царкоўнага і яшчэ больш умацоўвацца добрымі справамі, каб людзі, бачачы нашае жыццё, праслаўлялі Айца нашага нябеснага па малітвах мучанікаў святых Антонія, Іаана і Яўстафія. Гасподзь хай умацуе і нашае жыццё, і нашую веру, і дасць нам збаўленне душаў нашых.





**НА ЗДЫМКАХ: вынас іконы трох Віленскіх пакутнікаў са Свята-Духава манастыра; навечна ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску.**

(Заканчэнне на 4-й стар).

АКТРЫСА З КОЛАСАЎСКАГА ТЭАТРА

## ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ

*...Мы, як зубры,*
*Мы ў сябе дома,*
*Тутэйшыя, што ад вякоў жывуць,*
*Мы, як дубы,*
*Нас можна знішчыць громам,*
*Але з зямлі нас роднай*
*Не скрануць!!!*

Нібы важкія, празрыстыя кроплі навальнічнага дажджу, падаюць у прыціхлую залу каваныя радкі вершаў. Стомленая, з агрубелымі ад працы рукамі, учарнелым тварам, у арыштанцкай світцы жанчына звяртаецца да нас, яе сучаснікаў і нашчадкаў. І толькі вочы, светлыя і глыбокія, зіхацяць гарачым агнём. Няўжо гэта спакутаваная, немаладая ўжо жанчына на амаль пустой сцэне, уціснутай у агароджу-краты, якія становяцца то сценамі кватэры, то турэмнай камерай, то арыштанцкім вагонам, прыгажуня Галіна Дзягілева? Актрыса, якую мы прывыклі бачыць на сцэне коласаўскага тэатра ў ролях класічнага рэпертуару або ў элегантнай канцэртнай сукенцы на філарманічных падмостках. Так-так, яна, Галіна Дзягілева, і — Ларыса Геніюш. Выдатная беларуская паэтка, чалавек высокага і трагічнага лёсу.

На сцэне тэатра аднаго акцёра "Зніч" ідзе спектакль "Белы сон". У аснову яго драматургічнай плыні лягла аўтабіяграфічная кніга Ларысы Геніюш, вершы яе і яе сучаснікаў — А.Разанава, У.Арлова, А.Вярцінскага.

Гэта спектакль-споведзь, спектакль-набат. Гэта і адкрыццё малазнаёмага жыццёвага пласта, і невядомага для многіх з нас паэтычнага свету, бо мала хто да апошняга часу мог судакрануцца з гэтым светам. Мала хто ведаў, што зусім побач, у невялікім беларускім гарадку Зэльва, да нядаўняга часу жыла і тварыла выдатная беларуская паэтка і нязломны змагар за нацыянальную ідэю Ларыса Геніюш.

І паэзія, і само яе жыццё многія дзесяцігоддзі былі "пад забаронай". Эміграцыя, а пасля вайны выдача паэтэсы чэхаславацкімі ўладамі органам КДБ, няправедны суд — расправа. І турмы, лагеры, ссылкі... За тое, што любіла сваю зямлю, суайчыннікаў, родную мову, у яе адабралі ўсё: сям'ю, здароўе, які-ніякі дабрабыт. Але не здолелі адабраць аднаго — Любові. Яна служыла Богу на нябёсах, бо была глыбока веруючым чалавекам, і Богу на зямлі — Бацькаўшчыне. Паэтка навечна засталася грамадзянкай БНР, не ўзяўшы іншага грамадзянства.

Сёння Ларыса Геніюш вяртаецца да нас. Часопіснымі публікацыямі, кнігамі. І спектаклем. Дзякуючы Галіне Дзягілевай і яе тэатру "Зніч", заснавальніцай і мастацкім кіраўніком якога яна з'яўляецца.

Мне здаецца, што ў наш пераломны час грамадства падзяляецца на тых, хто, выгукваючы лозунгі і мала што робячы для іх ажыццяўлення, хутка-хуценька майструе сабе кар'еру (ох, і шмат развялося ў нас "мітынговых адраджэнцаў"!), і тых, хто без заклікаў ды мітусні ўпарта працуе на тое адраджэнне, сэрцам, душою прыняўшы покліч часу яшчэ задоўга да таго, як адраджэнскія ідэі ўзняліся на хвалю афіцыйнай увагі. І робяць гэта не для сябе — для людзей. Такая і Галіна Дзягілева.

Тэатр "Зніч" працуе ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Дакладней — пры філармоніі. Бо асноўная сцэна гэтага незвычайнага тэатра размяшчаецца ў невялікай лекцыйнай зале Нацыянальнай бібліятэкі. І гэта таксама не выпадкова, бо асноўны інтарэс Галіны Дзягілевай — нацыянальная літаратура, беларуская паэзія.

Сказаць, што гэта нялёгкі выбар — нічога не сказаць. Бо ёсць нешта "бяспройгрышнае" — паэзія сусветных і рускіх класікаў альбо Марына Цвятаева, Ганна Ахматава, а апошнім часам Іосіф Бродскі... А тут спектакль пра Рагнеду (зазначу, што менавіта Галіна была першаадкрывальнікам гэтай тэмы на тэатры), малавядомы Купала, бунтоўны Вярцінскі, пранізлівы, шчымлівы да болю ў сэрцы расповяд аб трагічным лёсе Ларысы Геніюш...

Так, гэта асэнсаваны выбар творцай нялёгкага шляху — пераадолення нігілістычнага погляду на родную мову, на родную культуру і гісторыю, які, будзем шчырымі, укараніўся ў масавай свядомасці.

(Заканчэнне на 6-й стар).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ДЫСКУСІІ: УСХОД — ЗАХАД

— Са зменай палітычнага становішча ў Еўропе знікла канфрантацыя паміж Усходам і Захадам, — адзначыў пасол ФРГ у НАТА доктар Герман Фрайхер фон Рыхтхофен на сустрэчы з прадстаўнікамі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. У час дыскусіі, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі МЗС рэспублікі, афіцэры штаба і Мінскага гарнізона, курсанты ваенных вучылішчаў, прадстаўнікі НАТА расказалі пра ваенныя, палітычныя, навуковыя аспекты супрацоўніцтва краін — удзельніц блока.



НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік генеральнага штаба НАТА доктар Паўль РАМБАХ (злева), пастаянны прадстаўнік Каралеўства Нідэрландаў генерал-лейтэнант Герыт-Яр ФОЛЬМЕР і пасол ФРГ у НАТА доктар Герман Фрайхер фон РЫХТХОФЕН у час сустрэчы.

ЗАЯВА С. ШУШКЕВІЧА

### НА ПАРАХАВОЙ БОЧЦЫ

"На тэрыторыі былога СССР толькі Расія мае маральнае права валодаць ядзернай зброяй, — заявіў у інтэрв'ю кабельнаму тэлебачанню НБО ЗША Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. — Наша рэспубліка, Украіна і Казахстан, нягледзячы на значны навукова-тэхнічны патэнцыял, наўрад ці змаглі б стварыць яго ўласнымі сіламі".

Захоўваць ядзерныя зарады на тэрыторыі Беларусі, на думку кіраўніка парламента, гэта, вобразна кажучы, тое самае, што сядзець на парахавой бочцы і прыкурваць дрэннымі запалкамі. Наяўнасць у рэспубліцы зброі масавага паражэння стварае пагрозу яе нацыянальнай бяспецы. У выпадку ўзнікнення ваенных канфліктаў паміж вялікімі дзяржавамі нападаючы бок заўсёды будзе імкнуцца падавіць пункты запуску атамнай зброі праціўніка. Іх на нашай зямлі ў перыяд "халоднай" вайны размясцілі дастаткова, каб рэспубліка стала цэллю на поўнае паражэнне.

Месца парахавы склеп на галоўным шляху з Расіі ў краіны Захаду, падкрэсліў С. Шушкевіч, проста вар'яцтва. Беларусь мае намер паскорыць вывад стратэгічнага ўзбраення са сваёй тэрыторыі, каб бяз'ядзерны пояс Еўропы расшырыўся ад рубяжоў Францыі да граніц Расійскай Федэрацыі.

ПАЧАЛІСЯ ЗАНЯТКІ



Урачыста сустрэла вучняў мінская СШ N 4. Для іх пачалося школьнае жыццё са сваімі цяжкасцямі і прыгажосцю, радасцямі і засмучэннямі.

НА ЗДЫМКУ: настаўніца пачатковых класаў Марфа БІРУК пачынае 36-ты навучальны год у гэтай школе.

АПЛАЧАНА ПЕНТАГОНАМ

### ПРАМАЯ ЛІНІЯ

31 жніўня 1993 года ў 10.00 у Нацыянальным агенцтве па кантролю і інспекцыях міністр абароны Рэспублікі Беларусь П. Казлоўскі і выконваючы абавязкі пасла ЗША ў Беларусі Д. Крол урачыста адкрылі прамую лінію сувязі паміж Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь і Пентагонам. Устаноўка спецыяльнага абсталявання ў Мінску ажыццёўлена ў рамках рэалізацыі законапраекта Нана-Лугара, у адпаведнасці з якім ЗША выдзеліў яшчэ 59 мільёнаў долараў для дэмантажу ядзерных установак, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, і вывазу іх у Расію.

Абсталяванне вартасцю болей за 2 мільёны долараў, яго мантаж, навучанне персаналу забяспечылі амерыканцы.

НАМ ДАПАМОГУЦЬ

### АМЕРЫКАНСКІ КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР

У 1994 годзе ў Мінску чакаецца адкрыццё амерыканскага культурнага цэнтра.

Згодна з паведамленнем аддзела культуры і інфармацыі пасольства ЗША, гэты цэнтр ствараецца ў рамках ажыццяўлення праграмы тэхнічнай дапамогі новым незалежным дзяржавам і заклікаў садзейнічаць развіццю эканамічных і культурных сувязей паміж беларускай грамадскасцю і рознымі амерыканскімі арганізацыямі, а таксама асобнымі прадпрымальнікамі. У новым цэнтры мяркуецца адкрыць бібліятэку з кнігамі на англійскай і рускай мовах, офіс для бізнесменаў, тэлекамп'ютэрны цэнтр. Апрача таго, у амерыканскім культурным цэнтры намячаецца даваць урокі англійскай мовы, праводзіць тэлеканферэнцыі, стварыць кансультацыйны цэнтр для студэнтаў, экспанаваць тэматычныя выстаўкі.

*"Нацыяналізм бывае розны, зрэшты, як і яго палітычныя антыподы. Характар яго вызначаюць шмат якія элементы нацыянальнай сутнасці, геапалітычнай канкрэтнасці. Нацыяналізм датчан ці фінаў, напрыклад, зусім іншая з'ява, чым арабскі нацыяналізм. Зноў жа ў пэўных абставінах нават і антыподы могуць стаць роднаснымі, калі не па форме, дык па сэнсу. Прыгадаем расійскі бальшавізм і нямецкі фашызм, гэтыя два канцы адной палкі. Беларускі нацыяналізм болей вядомы як нацыянал-дэмакратызм, ён не супраць каго-небудзь, ён — за. Найперш за лёс свае нацыі, але не на шкоду іншым, у тым ліку і сумежным нацыям. Беларусы тысячу гадоў існавалі на гэтай зямлі поруч з самымі рознымі нацыямі, у тым ліку і з расійцамі, і гісторыя не засведчыла колькі-небудзь сур'ёзных унутраных канфліктаў паміж імі. Беларусы валодаюць добра засвоеным імунітэтам супраць нацыянальнай варожасці, этнічнай ксенафобіі; памяркоўнасць і цярплівасць у іх крыві. (Часам нават залішняя цярплівасць). Ці не таму і дагэтуль у нас "усё ціха" паміж народамі? І гэта пры тым, што адпаведныя сілы робяць перманентныя захады, каб падзяліць і нацкаваць адных на другіх".*

*Васіль БЫКАЎ.*

У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ

### ПРАГРАМА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Савет Міністраў зацвердзіў праграму прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, што знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1993 год. Галоўныя мэты праграмы — павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, развіццё канкурэнтнага асяроддзя, ліквідацыя празмернай цэнтралізацыі ў кіраўніцтве эканомікай, стварэнне рыначнай інфраструктуры. Прадугледжваецца давесці да канца бягучага года па рэспубліцы долю раздзяржаўленай прыватызаванай маёмасці ў агульным кошце асноўных фондаў, што падлягаюць змяненню формы ўласнасці, да 10 працэнтаў, а таксама забяспечыць паступленне сродкаў ад прыватызацыі ў суме 1 270 мільёнаў рублёў (у цэнах на 1 студзеня 1993 года).

У СУРОДЗІЧАЎ З ВІЛЬНІ

### БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ

1 верасня адбылося ўрачыстае адкрыццё беларускай гімназіі ў Вільні. Акрамя літоўскіх афіцыяльных асоб на ім прысутнічалі міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка і міністр адукацыі рэспублікі В. Гайсёнак. Па словах В. Гайсёнка, які прывёз гімназістам падручнікі, кнігі і беларускамоўны камп'ютэр, "міністэрства бярэцца вырашаць усе праблемы гэтай школы, звязаныя з выкладаннем беларускай мовы і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем".

Беларуская гімназія ў Вільні налічвае 106 вучняў і 10 настаўнікаў.

ПРЫСЯГА

### НА ВЕРНАСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

5 верасня другі раз у гісторыі Беларусі выстраіліся на плошчы Незалежнасці ў Мінску роты маладых курсантаў-першагодкаў ваенных вучылішчаў рэспублікі, каб сказаць раз і на ўсё жыццё словы прысягі.

А потым, ужо ў рангу паўнапраўных, юрыдычна прызнаных воінаў Узброеных Сіл, урачыстым маршам прайшлі будучыя афіцэры па праспекту Францыска Скарыны на плошчу Перамогі, каб па-салдацку строга, але шчыра аддаць даніну павагі героям-франтавікам, партызанам і падпольшчыкам Вялікай Айчыннай вайны, ускласці жывыя кветкі да помніка-абеліска іх светлай памяці.

КІРМАШЫ




У Мінску завяршыўся другі кірмаш-салон "Бістро-93". Дзесяткі фірм з Беларусі, краін блізкага і далёкага замежжа прадставілі спецыялізаванае абсталяванне для прадпрыемстваў грамадскага харчавання, а таксама прамысловыя і харчовыя вырабы. На семдзесят працэнтаў усе экспанаты былі раскуплены наведвальнікамі, прадпрыемствамі беларускай сталіцы, яе гасцямі, заключаны гандлёвыя кантракты на многія мільёны рублёў.

НА ЗДЫМКУ: сваю прадукцыю дэманструе прадстаўнік польскай фірмы "Хелена" Валянцін ШУЛЕЙКА.

ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

### "БЕЛАРУСКІ АРХІЎ"

Супрацоўнікі пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ правялі азнаямленчае вывучэнне "Беларускага архіва" ў Гамбургу, які быў вывезены немцамі з Вільні ў 1917 годзе. Зроблена гэта па ўзгадненню з фондам "Вяртанне", мэтай дзейнасці якога з'яўляецца вяртанне на Беларусь шматлікіх культурных і гістарычных каштоўнасцей, што ў розныя часы былі вывезены за мяжу. Паводле звестак БелаПАН, у архіў уваходзяць дакументы вельмі працяглага гістарычнага адрэзка — ад часоў Вялікага Княства Літоўскага да XX стагоддзя. Пакуль не вызначана, гаворка будзе ісці пра вяртанне Беларусі ўсяго гэтага архіва, толькі часткі яго ці справа абмяжуецца толькі дазволам на доступ беларускіх навукоўцаў да гэтых дакументаў.

РЭПАРТАЖ З АВІЯЦЫЙНАЙ ЧАСЦІ

# ЛЯТАЮЦЬ У НЕБЕ САМАЛЁТЫ

...Тэлефонны званок: прэс-цэнтр Міністэрства абароны запрашае зрабіць паездку ў адну з часцей, пазнаёміцца з буднямі ваенных лётчыкаў, сучаснай баявой тэхнікай. Яшчэ зусім нядаўна нам, журналістам, цывільным людзям, такое магло ўбачыцца толькі ў сне. Але час мяняецца.

Да месца дыслакацыі часці дабіраліся паветрам: у Мінску нас чакаў верталёт.

Нейкі час гэта вінтакрылая машына нібы завісла, спынілася над Мінскам, даючы магчымасць зрабіць здымкі беларускай сталіцы з вышыні птушынага палёту. Праз ілюмінатары горад добра бачыўся: удала падабраныя месцы для мікрараёнаў, неардынарнасць, непаўторнасць архітэктурных забудоў цешылі вока. Пакуль верталёт вызначаў курс, не ўтрымаліся, каб не зрабіць некалькі фотаздымкаў.

Ляцелі даволі доўга. Часам пазнавалі знаёмыя мясціны — цэрквы, касцёлы, старыя разбураныя крэпасці ці замкі, дзе даводзілася часта бываць.

І вось мы на зямлі. Без лішніх цырымоній нас запрашаюць прайсці на лётнае поле. Спыняемся ля выстраеных у рад вядомых ва ўсім свеце знішчальнікаў МІГ-29. Запытальна азіраемся на суправаджаючых нас ваенных: ці можна тут рабіць нейкія здымкі?

Калі ласка. Хочаце тэхніку, хочаце саміх лётчыкаў, абслугоўваючы персанал. І толькі адзін з лётчыкаў наадрэз адмовіўся. Ён павінен быў праз хвілін дзесяць падняцца ў паветра. Лётчыкі — народ забабонны. Вось калі скончыцца вучэбны палёт, тады і фатаграфуйце...

Раптам моцны гул нібы разарваў цішыню. Гэта белакрылыя МІГі падняліся ў паветра. І тут пачалося такое, чаго часам не ўбачыш нават у самым страшным баевіку: самалёты то рэзка, амаль вертыкальна падніміліся ўвышыню, то "штопарам" нясліся ўніз, то круцілі нейкія там петлі, бочкі... Нашы сэрцы часта халадзелі ад страху за тых, хто сядзеў за штурваламі баявых машын: самая маленькая памылка (цьфу, цьфу...) — і можа здарыцца непапраўнае.

Толькі намеснік камандзіра палка палкоўнік Ігар Далгіх — кіраўнік сённяшніх палётаў заставаўся спакойным.

— У паветры асы з эскадрыллі падпалкоўніка Сяргея Смірнова, з праграмай палёту спраўляюцца нармальна, — супакоіў ён нас, журналістаў.

Колькі ж гадоў трэба вучыцца, каб так па-майстэрску кіраваць гэтай грознай машынай?

Ігар Далгіх на хвілінку задумаўся і адказаў так:

— Многія гады. І ў вучэбных трэніроўках — на зямлі на трэнажорах, і ў вучэбных палётах.

Намеснік камандзіра палка працягваў кіраваць палётамі, але выкраіў на гутарку з журналістамі хвілін дзесяць, за якія паспеў назваць і маладое папаўненне часці, якое ў хуткім часе заменіць праслаўленых асаў. Усяго год прайшоў, як скончылі вучылішча Сяргей Барушка, Валерый Якубаў, Сяргей Асаўцоў і іншыя. Але, як сказаў у заключэнне Ігар Далгіх, маладыя лётчыкі ўпэўнена лятаюць, вучацца ў старэйшых.

...Дарога не блізкая. Наш верталёт узяў курс дадому. А мы, журналісты, дзяліліся ўбачаным, мелі найлепшыя ўражанні аб адной з часцей маладой арміі Рэспублікі Беларусь. І прыходзілі да высновы, што, нягледзячы на негатыўныя з'явы, яе баявы дух, адказнасць і, калі хочаце, гонар засталіся высокімі. Сваю задачу — абараняць межы нашай дзяржавы — ваенныя лётчыкі выконваюць выдатна.

**Я. ІВАНОЎ.**







**НА ЗДЫМКАХ: Ігар ДАЛГІХ кіруе палётамі; адзін з асаў авіяцыйнай часці Сяргей СМІРНОЎ; вучэбныя палёты.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НАКІДЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

# БНК У АМЕРЫЦЫ

БЕЛАРУСЬ канца XIX — пачатку XX стагоддзяў была адным з рэзервуараў, адкуль амерыканскі капітал, што пачынаў квітнець, атрымліваў для сябе танную рабочую сілу. Сотні вярбовачных бюро, адкрытых на Беларусі, вычарпалі масы сялян-беднякоў. Беларускі беззямельны і малазямельны селянін з-за адсутнасці паблізу буйных індустрыяльных гарадоў толькі часткова ішоў у Петраград і іншыя прамысловыя цэнтры Расіі, а ў большасці выпадкаў эмігрыраваў у Амерыку. Існуючыя архіўныя крыніцы не дазваляюць назваць дакладную лічбу беларусаў, якія эмігрыравалі ў ЗША. Ва ўсякім выпадку, колькасць іх складала не дзесяткі, а сотні тысяч. Па сведчанню амерыканскай газеты "Свободная Россия" і віленскай газеты "Новае жыццё", у адным толькі Чыкага ў 1923 годзе знаходзілася звыш 50 тысяч беларусаў. Амерыканскі даследчык беларускага паходжання А.Клубовіч сцвярджае, што ў выніку паслярэвалюцыйнай хвалі эміграцыі ў ЗША выехала 122 тысячы нашых суайчыннікаў.

Лёс беларускіх эмігрантаў розны. Нязначная частка стала прадпрымальнікамі і разбагацела. Але пераважная большасць — гэта рабочыя ці батракі. Спецыфічныя ўмовы жыцця, няведанне англійскай мовы вымушалі іх умацоўваць сувязі з агульнарускай дыяспарай, улівацца ў яе арганізацыі. Ідэйны, палітычны ўплыў на іх аказвалі клерыкальныя арганізацыі, такія, як "Георгіеўскае брацтва" ў Чыкага, "Народнае праваслаўнае таварыства" і інш.

Распад агульнарускіх эмігранцкіх арганізацый па нацыянальнай прыкмеце пачаўся ў 1922 годзе. Першымі выдзеліліся ўкраінцы, а ў пачатку 1923 года і беларусы. Яны аб'ядналіся вакол Беларускага нацыянальнага камітэта, цэнтр якога размясціўся ў Чыкага. Старшынёй яго быў Янка Чарапук. У розных гарадах камітэт утварыў свае аддзяленні.

Маладыя эмігранцкія фарміраванні мелі патрэбу ў дапамозе. Разумеючы іх становішча, урад БНР, беларускія палітычныя партыі эсэраў, эсдэпаў і камуністаў рабілі спробы паслаць сваіх прадстаўнікоў у Амерыку для работы сярод эмігрантаў. Аднак войны і звязаныя з імі эвакуацыі і рээвакуацыі, а таксама няпэўнае палітычнае становішча Беларусі не дазвалялі рэалізаваць гэтыя задумы. І толькі ў пачатку 1923 года беларускаму ўраду БНР удалося камандзіраваць з Коўна ў Амерыку свайго прадстаўніка — эсэра Янку Чарапука, сакратара Рады Беларускай нацыянальнай сувязі, якая знаходзілася ў Літве. Тут ён дзейнічаў пад псеўданімам Антон Змагар. Адразу пасля прыбыцця ў Амерыку Я.Чарапук павёў энергічную работу. Першае яго публічнае выступленне адбылося 4 сакавіка ў Чыкага. Прысутным шматлікім землякам ён расказаў пра палітычнае і нацыянальнае становішча Беларусі. Даклад выклікаў ажыўленыя спрэчкі. Сустрэча працягвалася пяць гадзін. Была прынята рэзалюцыя, у якой, у прыватнасці, гаварылася аб неабходнасці арганізаваць беларускі перыядычны друк, праводзіць мітынгі, лекцыі, зборы матэрыяльных сродкаў на культурна-асветную работу сярод беларусаў Польшчы.

За час камандзіроўкі Антон Змагар пабываў у розных мясцінах Амерыкі, дзе выступіў з лекцыямі і дакладамі аб барацьбе беларускага народа за зямлю і волю, арганізоўваў мітынгі. На адным з іх быў вынесены пратэст супраць прыгнечання беларускай культуры ў Польшчы.

У чэрвені па просьбе эмігрантаў ён прачытаў лекцыю ў Саўт-Сайцкай школе. Гэта было яго апошняе выступленне.

Убачыўшы выніковасць такіх камандзіровак, прапагандысцкай работы сярод эмігрантаў, урад БНР расшыраў і ўмацоўваў сувязі з беларускай дыяспарай. Асобныя прадстаўнікі і групы беларусаў з Коўна і Вільні сталі частымі гасцямі землякоў.

На месцах актыўнай работай сярод эмігрантаў Амерыкі выдзяляліся Лукашэвіч і Жук. Яны арганізавалі збор грашовых сродкаў на развіццё палітычнай работы, выдавецкую дзейнасць. Гэта прыкметна ўзнімала аўтарытэт і ролю Беларускага нацыянальнага камітэта ў жыцці беларускай эміграцыі.

Вось як ацэньваў разгорнутую работу А.Змагар у віленскай газеце "Новае жыццё": "Работа мая ў Амерыцы сярод нашых беларусаў развіваецца. Нацыянальная свядомасць расце. Але патрэбны яшчэ работнікі. ...Бо мне аднаму даводзіцца даволі цяжка, хаця, прызнацца, сярод нашых эмігрантаў знайшліся добрыя памочнікі. Магу пахваліцца і падзяліцца радасцю. У хуткім часе пачну прысылаць грошы для беларускіх нацыянальных арганізацый на культурную работу, таму што зборы ахвяраванняў даюць добрыя вынікі".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

СУПРАЦЬ КАНГРЭСА НАРОДА

# НЕ ПАСВАРЫЦЬ ЛЮДЗЕЙ

Чарговай спробай распаліць напружанасць названа ў заяве шэрагу грамадскіх арганізацый і дэмакратычных партый задума правядзення "кангрэса народаў Беларусі". Сама назва меркаванага мерапрыемства выклікала абурэнне сваёй правакацыйнасцю, гаворыцца ў заяве. Бо народ Беларусі — адзіны, ён не дзеліцца па этнічнамоўных прыкметах: народ Беларусі — гэта ўсе мы разам: і беларусы, і прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Нездарма, атрымаўшы адмову з боку арганізацый нацыянальных меншасцей, ініцыятары мерапрыемства вымушаны былі ўнесці змену ў яго назву (кангрэс не "народаў" а "народа Беларусі").

Адсутнасць паўнамоцнага прадстаўніцтва ператварае гэту акцыю ў палітычны фарс. Арганізатары "кангрэса" нікога, акрамя саміх сябе, не прадстаўляюць, аднак збіраюцца прыняць на ім патрабаванне аб скасаванні незалежнасці нашай краіны праз канфедэрацыю з Расіяй. Але ж сапраўдную думку народа аб будучыні нашай краіны ўжо выказаў прадстаўнічы Першы з'езд беларусаў свету, што нядаўна адбыўся ў Мінску.

Мы пярэчым спробам знішчыць незалежнасць нашай краіны і перакрэсліць надзею на лепшае ў нашага народа. Мы патрабуем спыніць правакацыйныя намаганні перасварыць людзей Беларусі.

Пад заявай стаяць подпісы кіраўнікоў БНФ "Адраджэнне", БСДГ, Згуртавання беларускіх татар, ЗБС "Бацькаўшчына" і іншых.

## ЗАЯВА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БСДГ

25 жніўня мінула два гады, як Вярхоўны Савет Беларусі надаў канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце, аб'явіўшы нашу рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Што дала і чаго не дала нам незалежнасць? За гэтыя два гады нашых дзяцей перасталі пасылаць паміраць у "гарачыя кропкі", паменшылася верагоднасць уцягнення нашага народа ў чарговае жорсткае супрацьстаянне ў Расіі, якое можа зноў прывесці да грамадзянскай вайны.

У той жа час два гады незалежнасці — гэта час страчаных для нашага народа магчымасцей закласці аснову сваёй дзяржавы, падмурак уласнай эфектыўнай эканомікі. Нашы суседзі з Прыбалтыкі і Расіі пачалі праводзіць, хай і не без памылак, рэальныя эканамічныя рэформы, якія пачынаюць працаваць на іх грамадства. У Расіі назіраецца павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. У Беларусі сітуацыя процілеглая: пракамуністычны ўрад аказаўся здольным толькі на імітацыю рэформаў, што вядзе да рэзкага зніжэння жыцця народа. Больш таго, урад і яго прыхільнікі свядома кампраметуюць у вачах народа рынačныя рэформы і дзяржаўную незалежнасць. Увесь час яны чакалі і чакаюць, калі ў Расіі адхіляць ад улады Ельцына і можна будзе абысціся без рэформаў. Такая палітыка прывяла краіну да палітычнага і эканамічнага тупіка.

У цывілізаваных краінах кіраўнікоў урада, якія аказаліся няздольнымі кіраваць эканомікай, адпраўляюць у адстаўку. У нас жа пачаліся пошукі замежных "дабрадзеяў", якія б узялі на ўтрыманне эканоміку краіны. Прапануемая ж плата за "спонсарства" — страта дзяржаўнасці і ўцягненне нас у вір непрадказальных палітычных падзей у краінах СНД. Таму і едуць саветнік старшыні Савета Міністраў і кіраўнік праўрадавага парламенцкага аб'яднання ў Маскву — прасіцца ў канфедэрацыю, таму і цягнуць Беларусь у ваенны саюз, спрабуючы крывёю нашых дзяцей сплаціць магчымасць яшчэ колькі часу пратрымацца ва ўладзе.

Але гэта марныя спадзяванні. У Расіі дастаткова і ўласных праблем, каб утрымліваць яшчэ і беларускі сацыялізм. Тым больш, што хутка цана бензіну будзе аднолькавай і ў Парыжы, і ў Варшаве, і ў Ніжнім Ноўгарадзе. Нас, нашу эканоміку могуць уратаваць толькі рэальныя рэформы і людзі, здольныя іх ажыццявіць.

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады лічыць, што збанкрутаваўшыя палітыкі, якія даказалі сваю няздатнасць да кіравання краінай, павінны сысці з палітычнай арэны. Мы рашуча выступаем супраць прапановы аб канфедэрацыі, патрабуем адстаўкі пракамуністычнага кіраўніцтва ўрада на чале з В.Ф. Кебічам і стварэння кааліцыйнага ўрада нацыянальнага даверу.

# БЕЛАРУСКАЯ СВЯТЫНЯ НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У ашмянскім храме прагучала малітва на беларускай мове да святых Віленскіх мучанікаў, і хор праспяваў гімн "Магутны Божа" на словы Н. Арсенневай.

Не ведаю, як назваць гэтую немагчымую, здавалася, змену надвор'я, калі пасля праліўных шматдзённых дажджоў нечакана заззяла сонейка, ці то містыкай, ці то Божым дарам, але сапраўды ўвесь наш шлях з Вільні да Мінска быў светлым і чыстым. Айцец Алексій, настаяцель Жодзінскай царквы, расказваў, што калі ікону вынеслі з віленскага Свята-Духава манастыра, хмурнае неба як бы рассунулася і сноп прамянёў асвяціў ікону.

Пасля набажэнства ў Ашмянах светлым сонечным днём ікону з часцінкамі мошчаў трох Віленскіх мучанікаў павезлі ў Ракаў. Ля храма беларускую святыню сустракаў уладыка Філарэт і мясцовыя прыхаджане. Увесь шлях да храма быў засыпаны кветкамі. Святочна званілі царкоўныя званы.

У Мінску на набярэжнай ракі Свіслач, на руінах старажытнай царквы XVII стагоддзя, адбылася літургія. Да прысутных звярнуўся мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

— Мы з вялікай духоўнай радасцю сустракаем святыню ў нашым горадзе, святую ікону Віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія, якая пабывала ў Вільні і на грабніцы гэтых мучанікаў была асвячона. Па благаславенню ўладыкі Хрызастома Віленскага ў гэтую ікону закладзены часцінкі мошчаў Антонія, Іаана і Яўстафія.

Мы заўсёды падчас набажэнства паміналі гэтых мучанікаў і пасылалі ім малітвы за дапамогай. Зараз гэтыя мучанікі нам сталі яшчэ бліжэй і духоўна, і фізічна. Гэта ікона пасля Божае літургіі з сабора хрэсным ходам перанесена ў Петрапаўлаўскі сабор і там будзе знаходзіцца.

Божа! Малітвамі святых мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія памілуй усіх нас! Памілуй горад наш і краіну нашу Беларускую і благаславі народ наш на яго працу! Дай мір свету і благастаянне святым Божым цэрквам!

Увесь шлях сярод паломнікаў прайшоў народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Валянцін Голубеў. Мне хочацца прывесці даслоўна яго выступленне пасля вяртання святыні на беларускую зямлю.

— Праваслаўныя вернікі! Вяртанне народу яго нацыянальных духоўных святыняў — гэта вялікае свята. І сёння ў нас, усіх праваслаўных Мінска, ва ўсіх праваслаўных Беларусі вялікае свята: у Мінск прыбылі часткі мошчаў трох Віленскіх пакутнікаў, тых беларусаў, якія ў далёкія часы змагання за шчырую праваслаўную веру на нашай зямлі аддалі за яе жыццё.



Вяртанне такіх святыняў заўсёды яднае нацыю, яднае дзяржаву, яднае людзей царквой. Праваслаўная царква заўсёды змагалася за тое, каб людзі былі з Богам, з дабром. Яна змагалася супраць бязбожніцтва, супраць так званага атэізму, за духоўнае, за добрае для людзей, для Беларусі, для ўсяго народа.

Святыя мучанікі Антоній, Іаан і Яўстафій яшчэ ў XIV стагоддзі былі прызнаны як заступнікі Беларусі, беларускае праваслаўнае царквы і беларускага народа. Дык няхай жа яны зараз з усім саборам беларускіх святых дапамогуць нашай праваслаўнай царкве, усяму беларускаму народу ў нашым Адраджэнні і духоўным, нацыянальным, і дзяржаўным.

Ікона з часцінкамі мошчаў святых Віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія была асвячона ў Свята-Духавым кафедральным саборы, а потым пад звон званоў усіх цэркваў ікону перанеслі на пастаяннае яе месца ў Свята-Петрапаўлаўскі сабор Мінска.

Падчас невялікай паўзы мне ўдалося пагутарыць са старшынёй Праваслаўнага брацтва трох Віленскіх мучанікаў Міколам Матрунчыкам, які быў галоўным зачынальнікам і арганізатарам гэтае святое справы. Вось што ён мне расказаў:

— Справа гэтая ёсць святая, таму акрамя чалавечага, сімвалічнага значэння ў ёй ёсць і містычнае. Не можа не быць тут містычнага сэнсу і містычнага значэння, і не трэба тут шмат напружвацца, каб знайсці гэтую містыку. Яна будзе спадарожнічаць усім тым, хто тут, побач з мошчамі святых (меnavіта, святых!) Віленскіх мучанікаў.

Другі дзень з раніцы ліў беспрасветны дождж, і калі ўжо ікона наша была асвячона і мы выйшлі, каб прайсці хрэсным ходам вакол Свята-Духава манастыра ў Вільні, вакол сабора, дзе знаходзяцца мошчы Віленскіх мучанікаў, то (нельга сказаць, што гэта было неспадзявана, гэта было вельмі натуральна) промневае святло ўдарыла ў абраз, у ікону, якую мы неслі. Ад гэтага мурашкі пайшлі па целе, і такое было адчуванне глыбокай-глыбокай еднасці са святымі, якія былі нібыта зусім побач з намі! А яшчэ гэта адчуванне блізкасці ў нас было каля Свята-Троіцкай царквы ў знакамітых Базыльянскіх мурах, на тым месцы, дзе прынялі пакутніцкую смерць святыя Антоній, Іаан і Яўстафій. Мы разам з беларусамі Віленшчыны прысутнічалі на малебне нашым заступнікам беларускага народа, стоячы на месцы іх пакутніцкай смерці. Мы адчувалі, як ветрык, неба, усё асяроддзе нібыта нагадвалі блізкую-блізкую іх прысутнасць. Усе гэтыя нюансы словамі немагчыма перадаць, гэта хутчэй сапраўды містычнае суперажыванне. Я ўпэўнены, што цяпер, пасля таго як цудадзейны абраз быў напісаны на святой смаленскай зямлі беларусам са Смаленшчыны, пасля таго, як гэты абраз быў асвячоны ў Вільні, дзе знаходзяцца мошчы святых Віленскіх мучанікаў, цяпер у сэрцы нашай дзяржавы, у сэрцы нашага народа, у Мінску мы будзем адчуваць гэтую еднасць.

— Нагадайце, калі ласка, калі былі замучаны Віленскія мучанікі, і прычыну, з якой яны прынялі пакуты.

— Асноўная прычына, што пры Альгердзе ў першай палове XIV стагоддзя гэтыя мучанікі жылі ў двары Альгердавым. У Вільні жывучы, яны прынялі на сябе хрысціянства. Вакол жа на той час жыло жмудзінскае насельніцтва, яшчэ язычніцкае, і гэта быў выклік тагачаснаму грамадству. Вось уявіце сабе княжацкі двор, дзе яны не брыюць бароды, посцяць, трымаюць усе запаветы паводле хрысціянскай веры. Безумоўна, гэта была нейкая анамалія, не норма. І ў гэтым выкліку, і ў тых напалках, якія пачаліся з розных бакоў, яны толькі мацнелі. Вось у гэтым і ёсць сіла і мудрасць хрысціянскай веры. Чым больш ты на сябе бярэш пакутаў, тым больш моцным робішся.

У 1347 годзе Антоній, Іаан і Яўстафій былі пакутніцкі, страшна закатаваны, і вось у 1374 годзе канстанцінопальскі патрыярх Філафей кананізаваў іх, і часцінкі мошчаў гэтых мучанікаў былі перададзены ў Сафійскі сабор у Канстанцінопалі. Яшчэ часцінкі мошчаў у крыжы былі перададзены Усяленскім патрыярхам Сергію Раданежскаму. Яшчэ адны часцінкі мошчаў цяпер вось тут, у Мінску.

Асаблівай увагай да Віленскіх мучанікаў яшчэ ў XIV стагоддзі Канстанцінопаль падкрэсліваў незалежнасць нашага праваслаўя ад маскоўскага. Вельмі актуальна гэта і сёння. Шанаванне памяці трох Віленскіх пакутнікаў дае магчымасць беларусам не забывацца пра сваю багатую духоўную і гістарычную спадчыну.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: літургія на месцы старажытнай царквы над Свіслаччу ў Мінску.**

# БНК У АМЕРЫЦЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Беларускі нацыянальны камітэт наладзіў сувязі з літоўскай, украінскай дыяспарай для правядзення сумеснай палітычнай і грамадскай работы. Са спачуваннем ставіліся да беларускай эміграцыі ірландскія арганізацыі ў Амерыцы. Яны аказвалі і маральную, і матэрыяльную дапамогу.

Праз Беларускі нацыянальны камітэт у Чыкага звярнуўся з прапановай узяць на сябе пасрэдніцтва ў аказанні розных відаў дапамогі Савецкай Беларусі прадстаўнік прафесара Фрыцьяфа Нансена. У адпаведнасці з пагадненнем, падпісаным Нансенам з ЦК дапамогі галадаючым пры УЦВК РСФСР, ён пастаўляў пасылкі ў Расію ўжо з 1921 года. 17 ліпеня 1922 года ЦВК Беларусі распаўсюдзіў дзеянне гэтага пагаднення і на тэрыторыі рэспублікі. Каб ахапіць сваім уплывам эмігрантаў-беларусаў усёй этнічнай Беларусі, Беларускі нацыянальны камітэт вырашыў склікаць 1 верасня 1923 года ў Чыкага кангрэс беларускай эміграцыі Віленскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай і Гродзенскай губерняў. Для наладжвання сувязей з дыяспарай, свайго ўплыву на эмігрантаў Народны камісарыят замежных спраў БССР рэкамендаваў КПБ паслаць на кангрэс свайго прадстаўніка. Акрамя ўдзелу ў кангрэсе, яму трэба было арганізаваць пры Кампартыі ЗША беларускую секцыю для сістэматычнай работы сярод эмігрантаў.

Так пачыналася рэалізацыя палітыкі БССР у пераўтварэнні нацыянальнага беларускага руху ў рэвалюцыйны рух. Пазней яна была сфармулявана ў афіцыйных дакументах. У прыватнасці, у тэзісах ЦК КП(б)Б "Беларускі рух за кардонам" ад 16 кастрычніка 1925 года. Прызнавалася неабходным "наладжванне кантакта праз мясцовую кампартыю і спецыяльна пасланых работнікаў", вызначаліся меры па павышэнню сярод эмігрантаў савецкага ўплыву, прыцягненню да супрацоўніцтва з новымі ўладамі асобых груп і лідэраў. Задача была ў тым, каб працягваць работу па разлажэнню і драбненню беларускай эміграцыі, ні ў якім разе не дапускаць утварэння якіх бы там ні было беларускіх аб'яднанняў, таму што гэта "затармозіць развіццё беларускага руху савецкай арыентацыі".

Першыя поспехі ў ажыццяўленні НЭПа, адраджэнні нацыянальнай культуры, беларусізацыі, аб'яўленая амністыя, якой падлягалі не толькі рабочыя і сяляне, якія ўдзельнічалі ў антысавецкіх фарміраваннях 1918—1920 гадоў, але і беларускія палітычныя і культурныя дзеячы, члены ўрада БНР і розных палітычных партый, якія лаяльна ставіліся да Савецкай улады, схілілі частку эмігрантаў да вяртання на радзіму. У эмігранцкім руху за мяжой адбыўся раскол, зніжэнне палітычнай дзейнасці. Рознагалоссі паміж рознымі арганізацыямі былі пераадолены з пачаткам другой сусветнай вайны, калі замежжа папоўнілася новай хваляй эмігрантаў.

**Эдуард ЗАБРОДСКІ.**

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

Езуіты правільна ацанілі сітуацыю на Беларусі і адмовіліся на першым часе ад гвалтоўнага наступу на пратэстантызм, яны дзейнічалі спачатку асцярожна, спакваля. Вось як рэкамендавалася ў адной з інструкцый праводзіць у жыццё палітыку езуітаў: "Што датычыцца парафіян, асабліва простага звання,... неабходна як толькі магчыма сцерагчыся таго, каб не даць ім найменшага повада здагадацца аб вашых намерах і мэтах. Паколькі ад парафіян можна чакаць адкрытага ўзброенага паўстання, дык не раім адкрыта ісці супраць іх". Далей ідзе парада не ўводзіць новыя звычаі раптоўна, "а замяняць паціху старыя". Крывадушнасць як тактычны сродак выхоўвалася падспудна змалку. Зманеным у каталіцтва вучням раілі ўтойваць дома здраду бацькоўскай веры, а гэта выхоўвала двудушнасць, бо даводзілася лгаць і выкручвацца: у сценах калегіума рабіць адно, па-за імі — другое.

На Беларусі езуіты першыя гады надта не налягалі на выкараненне ерэтызму палкім словам і стрымлівалі знешне сваю ваяўнічасць. Людзей старога веку, закаранелых у ерасі, бы тых гарбатых, выправіць адна толькі магіла. Іншая справа моладзь, яна, бы свежазамешаная гліна, лёгка і хутка прымае ў вопытных руках неабходную форму. Таму асноўныя намаганні яны накіроўвалі на авалоданне выхаваннем і адукацыяй маладога пакалення, каб у адносна недалёкай будучыні пусціць карэнне ва ўсе сітавіны грамадства.

Акрамя сваіх навучальных устаноў, езуіты стварылі на Беларусі даволі разгалінаваную сістэму рэзідэнцый і місій. Размяшчаліся яны не толькі ў гарадах, напрыклад, у Бабруйску, Магілёве, Слоніме, Барысаве, але і ў шмат якіх вялікіх маёнтках, гаспадары якіх пад уплывам братоў "Таварыства Ісуса" перайшлі ў каталіцтва. У кожнай такой маёнткавай місіі было некалькі вопытных езуітаў, яны тайна накіроўвалі работу сваіх свецкіх прыхільнікаў, як правіла, былых выпускнікоў езуіцкіх навучальных устаноў. У выніку на тэрыторыі Беларусі было заснавана з улікам калегіумаў 79 езуіцкіх апорных пунктаў, большая частка іх знаходзілася на ўсходняй граніцы Вялікага Княства Літоўскага.

Мінула два дзесяцігоддзі. Езуіты трывала замацаваліся на беларускай зямлі і сталі не толькі духоўна, але і палітычна ўплывовай сілай. У пачатку XVII стагоддзя яны пераходзяць у рашучае наступленне на Рэфармацыю. Колькасць апорных пунктаў езуітаў павялічылася нагэтулькі, што кіраваць імі з аднаго цэнтра стала нязручна. Паўстала пытанне аб стварэнні асобнай літоўскай правінцыі. Для вывучэння гэтай праблемы на Беларусь прыязджае ў 1590 годзе А.Л. Масэлля, эмісар пятага генерала ордэна езуітаў неапалітанца А. Аквавівы. Але адміністрацыйнае размежаванне з польскімі езуітамі адбылося толькі праз паўстагоддзя і было прымеркавана да стогадовых угодкаў выдання папай Паўлам III 27 верасня 1540 года булы "Regimine militandis ecclesiae" аб зацвярджэнні Ісусава таварыства. Юбілей адзначаўся з вялікай помпай, у Вільні ажно цэлых восем дзён. Адбылося святкаванне і ў Нясвіжы, неафіцыйнай тагачаснай сталіцы Беларусі. Справа ў тым, што Мікалай Крыштаф Радзівіл, празваны Сіроткай, няўдзячны сын Мікалая Радзівіла Чорнага, рашуча занядбаў бацькаву веру, у 1567 годзе адрокся пад уплывам езуітаў, у прыватнасці Пятра Скаргі (сапраўднае прозвішча Павенскі), ад кальвінізму і перайшоў у каталіцтва. Вярнуўшыся 7 ліпеня 1584 года з падарожжа, пачаў бурыць усё створанае бацькам: спаліў на рыначнай плошчы Брэсцкую і Нясвіжскую Біблії разам з іншымі пратэстанцкімі выданнямі, паставіў на месца кальвінісцкіх пастараў, каталіцкіх ксяндзоў і запрасіў у Нясвіж езуітаў для наварочвання ў каталіцтва навакольнай шляхты, мяшчан і сялян. Пабудаваў ім касцёл і калегіум на 200 чалавек, а перад гэтым аддаў фарны (прыходскі) касцёл, кальвінскі збор, арыянскую малельню і славутую некалі беларускімі кніжкамі друкарню. Але гэтым, як пісаў этнограф XIX стагоддзя Адам Кіркор, Радзівіл не абмежаваўся і адшкадаваў езуітам на ўтрыманне ладны нават па тым часе кус ад сваіх уладанняў — маёнтак Ліпск з вёскамі Тухавічы, Свецічы, Навасёлкі, Раздзяловічы, Заліпенне, Залучча, Ужанка, Рудаўка і разам з вызваленымі ад войска і чыншу сялянамі.

Трывала ўвайшоўшы ў моц, езуіты ўзначалілі контррэфармацыю і перайшлі да адкрытых, бескампрамісных і амаральных форм барацьбы з усімі плынямі пратэстантызму. Яны не грэбавалі паклёпамі, правакаваннем пагромаў. Зачыняюцца арыянскія школы і друкарні. У 1617 годзе па ініцыятыве езуітаў з Наваградка выгналі сілай сацыніянаў, а ў 1658 годзе сойм аб'яўляе ўсіх без выключэння антытрынітарыяў па-за законам і прымае рашэнне аб дэпартацыі іх з Рэчы Паспалітай. Для ўпарадкавання сямейных і маёмасных спраў сойм вызначыў трохгадовы, а на наступнай сесіі двухгадовы тэрмін. Тым, хто не пераходзіў у каталіцтва і, барані Божа, заставаўся вернікам антытрынітарызму, пагражала смяротнае пакаранне. І гэта не было пустой пагрозай. Івану Тышковічу, падляшскаму беларусу, за адмову прысягнуць па каталіцкаму звычаю кат перад смерцю вырваў язык.

Пераважная большасць арыян, абцяжараных гаспадаркай і вялікімі сем'ямі, не магла падобна сваім ідэолагам знясца з наседжаных бацькамі і дзядамі месцаў. Яны засталіся на радзіме і, каб ацалець, перайшлі ў іншыя веравызнанні, пераважна ў каталіцтва. Нават магнаты прыцягваліся да адказнасці за дысідэнцтва. Справай Багуслава Радзівіла, абвінавачанага даносчыкам у дапамозе ерэтыкам, якія жылі і хаваліся ад уладаў у яго ўладанні Заблудава, што знаходзілася ў Гродзенскім павеце, займаўся Галоўны літоўскі трыбунал.

Не заставаліся па-за ўвагай езуітаў і праваслаўныя, якіх да ўладаў, судоў і станаў". Адкрыта дыскутуецца пытанне: "Ці могуць прысутнічаць на Божай вячэры тыя, хто не адпускае на волю сваіх прыгонных?". На сінодзе беларускіх арыян у Іўі многія падтрымалі ідэю ліквідацыі прыгонніцтва і інстытута халопства, заяўляючы, што шчыры хрысціянін не можа валодаць прыгоннымі і нявольнай чэляддзю. Усё гэта ліло ваду на кола езуіцкага млына, спраўна перамолваючы сваімі жорнамі аднаго магната за другім. А тут яшчэ паціху пачалі адціскаць кальвіністаў ад кіруючых і даходных пасад. Усюды верх бралі католікі. І гэта не дзіўна. У 1587 годзе ў сойме было 39 сенатараў: сем католікаў і 32 праваслаўныя і пратэстанты. У 1632 годзе не засталося ў сойме ніводнага дысідэнта.

Шэрагі рэфармістаў пачынаюць радзець. Віленскі сінод адзначае ў 1612 годзе змяншэнне многіх абшчын з прычыны таго, што іх пакідаюць беларускія браты шляхецкага стану. Адны мі з першых за прыкладам Мікалая Радзівіла Сіроткі пайшлі Юры Алелькавіч-Слуцкі, Леў Сапега, Іван Глябовіч, Пётр Весялоўскі, Тышкевічы і інш. Сапегу не ўпершыню было мяняць веру, яшчэ юнаком ён перайшоў з праваслаўя ў кальвінізм, а вось цяпер зрабіўся католікам. Здавалася, нічога кепскага не адбылося, абедзьве канфесіі гэтак жа, як і пратэстантызм, — хрысціянскія і грунтуюцца на адной і той жа аснове — вучэнні аб выратавальнай ахвяры Ісуса Хрыста. Ад праваслаўя каталіцтва розніцца шэрагам асаблівасцей. У галіне рэлігійнай дагматыкі, напрыклад, католікі, прызнаючы тройцу, інакш тлумачаць "зыходжанне святога духа", лічачы, што ён зыходзіць толькі ад Бога-бацькі і Бога-сына. Каталіцкія вернікі прызнаюць дагматы вяршэнства і бязгрэшнасці папы рымскага. Ёсць чыста знешнія абрадавыя разыходжанні, якія невартыя нават гаворкі.

Здаецца, пераход з праваслаўя ў каталіцтва і наадварот — чыстая фармальнасць, але ў тагачасных умовах каталіцтва не толькі прасоўвала ўплыў рымскай курыі на ўсход, але і выкарыстоўвалася Польшчай у якасці палітычнага сродку паланізацыі краю. Ілжывае сцвярджэнне: "Кожны католік — паляк", простае, як дышла, і зразумелае маладасведчанаму насельніцтву, выдавалася як бясспрэчная ісціна ў апошняй інстанцыі. У пераважнай большасці свядома падтрымліваючы асіміляцыю беларусаў, езуіты зрабілі кепскую паслугу не толькі самім сабе, але і каталіцтву, выклікаўшы да яго як да асобнай канфесіі варожае стаўленне насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага праваслаўнага веравызнання.

Пачуццё непрыязнасці да ордэна езуітаў узнікла задаўга да паяўлення іх на Беларусі і не ў асяроддзі іншаверцаў, а ў каталіцкіх і да ўсяго царкоўных колах. Слова "езуіт" стала сінонімам падступнасці і крывадушша не на славянскіх землях, а ў краінах, спрадвеку каталіцкіх. Адмоўныя адносіны яны выклікалі да сябе яшчэ і тым, што сляпіцай лезлі ва ўсе шчыліны грамадскага жыцця і ў душы людзей. Грэбавалі нацыянальнымі традыцыямі і звычаямі народаў, ішлі, як кажуць, на ўсё дзеля дасягнення сваёй мэты. Бязмерная сквапнасць стала адной з галоўных вызначальных рысаў езуітаў. Міма іх учэпістых рук не праходзіла нічога, каб яны не адскублі хоць каліва чужой маёмасці ў сваю карысць. Калі надаралася магчымасць штосьці ўварваць, святыя браты наўсцяж забывалі пра адзін з галоўных, прадугледжаных статутам "Таварыства Ісуса", зарокаў — зарок беднасці. Сваю цнатлівасць, а дакладней, імідж бяссрэбраніка, ордэн страціў у першыя дні свайго афіцыйнага існавання, калі не міргнуўшы пракаўтнуў страшэнна вялікую маёмасць рымскага двараніна і афіцэра папскай гвардыі Пітры Кадачы, які шчыра павернуў у чысціню ўзнятага Лаёлай сцяга.

Пра нейкі беларускі патрыятызм езуітаў не варта гаварыць, нават пры ўліку таго, што сярод іх было многа беларусаў, бо выхоўвалі яны сваіх гадаванцаў зацятымі прыхільнікамі каталіцтва, пад сцягам якога ў той час вялася паланізацыя. Агульнавядома, найбольш зацятых ворагаў народа, чым неафіты, цяжка знайсці. Возьмем да прыкладу таго ж Ю.Пілсудскага. На допыце ў царскай жандармерыі ён назваўся беларусам, тым, кім і быў у сапраўднасці. У лісце да рэдакцыі часопіса "Культура", што выдаецца ў Парыжы, дачка маршалка Ядвіга Ярашэўская сведчыць, што бацька "захаваў у сабе характар непрыхільнага да тэатральнасці ліцвіна" (1988 год, N 11, с.9.). Пэўна, няма патрэбы згадваць пра яго стаўленне да беларускасці. Уся сістэма езуіцкага навучання не мела нічога агульнага з абуджэннем у студэнтаў пачуцця этнічнай свядомасці. "Я не ведаў, — з горыччу пісаў адзін з езуіцкіх выхаванцаў, — той краіны, у якой нарадзіўся, я не ведаў ні галоўных законаў, ні інтарэсаў маёй радзімы,.. я ведаў толькі латынь і глупства".

Былі, зразумела, сярод езуітаў высокаадукаваныя, таленавітыя людзі, але яны не рабілі пагоды, а іх сувязь з беларускай культурай заключалася толькі ў тым, што яны нарадзіліся і жылі на Беларусі. З другога боку, навуковыя працы многіх езуітаў-беларусаў нельга і ігнараваць, бо яны ўсё ж створаны беларусамі і вызначаюцца высокім прафесійна-даследчым узроўнем. З-за прыналежнасці да езуітаў па крайняй меры некалькі дзесяткаў навукоўцаў злачынна занядбаны і выключаны з навуковага ўжытку. Возьмем, напрыклад, празванага "злым дэманам падскарбія" прэфекта гродзенскага канвікту Ксаверыя Богуша. Гэты адданы, як кажуць, душой і целам свайму ордэну езуіт быў да ўсяго гісторыкам, прызнаным яшчэ пры жыцці "заслужаным пісьменнікам". Яго пяру належаць гістарычныя працы "Аб пачатку народу і мовы літоўскай", "Жыццё Почабута", "Гісторыя канфедэрацыі Барскай" і іншыя даследаванні і публіцыстычныя творы. Кнігі многіх езуітаў дагэтуль не страцілі навуковай вартасці, а мы пра іх, "дзякуючы" шматлікім нязваным дабрадзеям, маем цьмянае ўяўленне.

Палітыку ўтойвання гісторыі ад народа праводзілі і езуіты, зачыняючы праваслаўныя і асабліва пратэстанцкія школы і друкарні. Гэта з іх волі на рыначнай плошчы Нясвіжа полымя вогнішча паглынула Берасцейскую і Нясвіжскую біблії, спапяліла ўсе бібліятэкі пратэстанцкіх абшчынаў.

З лёгкай рукі езуітаў палілі на Беларусі кнігі царскія чыноўнікі і праваслаўныя іерархі, бальшавікі і фашысты. Але дзеля аб'ектыўнасці неабходна адзначыць, што не яны былі піянерамі знішчэння непажаданых кніг. Прыклад паказалі дамініканскія інквізітары, але прыярытэт у гэтай ганебнай справе, як ні дзіўна, належыць старажытным элінам. Упершыню ў гісторыі за бязбожжа спалілі ў 411 годзе кнігі Пратагора.

Са станоўчых граней езуіцкіх навучальных устаноў неабходна адзначыць іх адкрытасць для дзяцей усіх без выключэння станаў, веравызнанняў і нацыянальнасцяў, у тым ліку і пратэстантаў.

Трэба меркаваць, што дзверы калегіумаў і акадэмій не былі зачынены і для прадстаўнікоў іудзейскага веравызнання, бо, як неаднаразова падкрэслівалі біёграфы Лаёлы, "ён палюбіў яўрэяў і руплiва дамагаўся абарачаць іх у хрысціянства". Плата за навучанне не спаганялася, таму езуіцкія школы былі для многіх выхадцаў з малазабяспечаных і асабліва бедных пластоў грамадства адзіным шляхам у навуку. Калегіумы і акадэміі "Таварыства Ісуса" прываблівалі і спакуслівай магчымасцю зрабіць у будучыні добрую кар'еру, тым больш, што езуіты ўсё жыццё сачылі за сваімі выпускнікамі і метадычна прасоўвалі іх ва ўсе ўплывовыя сферы грамадства. Чым, як не гэтым, можна вытлумачыць навучанне ў езуіцкіх школах многіх дзяцей непрыязна настроеных да езуітаў бацькоў? Зацяты вораг езуітаў напачатку, полацкі ваявода кальвініст Мікалай Дарагастайскі праз нейкі час здраджвае сваім перакананням і наўздзіў аднаверцаў аддае ў навучанне езуітам абодвух сваіх сыноў. Тое ж зрабіў і полацкі праваслаўны епіскап Феафан.

**Станіслаў ЦЯРОХІН**

**Прагяг.
Пачатак у № 33-35.**

## У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ

# ПРА КВЕТКІ, ПРА ЧЫСТАЕ НЕБА

У той частцы маёй бібліятэкі, што прысвечана беларуска-інтэрнацыянальным сувязям, яго кнігі месцяцца на асобнай палічцы. Тут сабраны выданні, якія дапамагаюць дакрануцца да дзвюх старонак, да лёсаў двух народаў... І абедзве старонкі дарагія мне амаль што ў роўнай ступені — і Беларусь, і Туркменія... Першая — за падараванае жыццё, за родную мову... Туркменія ж — за гасцінны прытулак, за сяброў, знойдзеных тут... Але ж гаворка не пра тое. Словам, ёсць на гэтай палічцы колькі кніг, падараваных народным пісьменнікам Туркменістана Каюмам Тангрыкуліевым. А сяброўства наша пачалося з... Беларусі. Збіраў у той час матэрыялы пра пераклады беларускай паэзіі на туркменскую мову. Параілі пацікавіцца ў Каюма Тангрыкуліева.

— ...Звяртайся проста... Не саромейся. Моладзь ён любіць, — параіў тагачасны дырэктар выдавецтва "Магарыф" Нарклыч Атаеў.

І вось я ў пакоі галоўнага рэдактара часопіса "Корпе" ("Малыш"). Выходзіць ён для дашкольнікаў і дзяцей малодшых класаў. На дзвюх мовах — рускай і туркменскай.

— ...Пытаешся, каго друкавалі з беларусаў?.. Ну, безумоўна, Васіля Вітку... Зараз рыхтуем беларускі нумар — будзе і Агняцвет у ім, і дзіцячая проза Васіля Хомчанкі, ды й шмат яшчэ каго... У "Пионере" (туркменскі часопіс для школьнікаў. — **А.К.**) бачыў вершы Міколы Чарняўскага, апавяданні Васіля Ткачова... У часопісе працуе адказным сакратаром Пірненес Авезліеў — добры сябар Беларусі. Пірненес і гасцяваў у вас колькі разоў. І пісаў у сваіх вершах не раз пра Беларусь, пра сінявокую Нарач... Казаў, што ёсць задума напісаць асобную вершаваную кнігу пра Беларусь.

Падчас першай сустрэчы Каюм-ага расказаў няшмат, болей пра іншых, чым пра сябе. Самога ж пісьменніка мне прадставілі ягоныя кніжкі, шматлікія літаратурна-крытычныя артыкулы, што датычаць яго творчасці, яго біяграфіі. Каюм Тангрыкуліеў — лаўрэат Ганаровага дыплома імя Г.Х.Андэрсена, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Туркменістана імя Махтумкулі, народны паэт Туркменістана... А колькі з-пад яго пяра выйшла кніг! Колькі іх перакладзена на іншыя мовы...

Друкаваліся вершы, проза Каюма Тангрыкуліева і ў нас, на Беларусі. Двойчы паэтычныя творы туркменскага шахіра выходзілі ў Мінску асобнымі кніжкамі — "Мой кавун", "Песні Каракумаў". Гучалі творы Каюма Тангрыкуліева і са старонак часопіса "Вясёлка", газеты "Піянер Беларусі". Спадарожнікі туркменскага чытача па дарозе да беларускай малечы, перакладчыкі яго твораў — Еўдакія Лось, Артур Вольскі, Мікола Чарняўскі.

Падчас нашых сустрэч Каюм-ага не раз выказваў жаданне наведаць Беларусь.

... — Шкадую, что не пабываў у Хатыні, хаця гэтулькі чуў пра яе. Вось і альбомы, буклеты адпаведныя ў мяне ёсць. Ды хіба гэта можа замяніць жывыя ўражанні. Да таго ж, на Беларусі і шмат сяброў у мяне — Васіль Вітка, Павел Кавалёў, Валянцін Лукша, Уладзімір Ліпскі... Шкадую, што ўжо не здолею пабачыцца з Еўдакіяй Лось. Вестка аб яе смерці была для мяне дужа жахлівай. З Еўдакіяй Лось часта бывалі разам у сумесных паездках па рэспубліках, на Тыднях дзіцячай літаратуры. Перакладаў я на туркменскую мову і яе дзіцячыя вершы. У Еўдакіі ж вучыўся і рэдактарскай навуцы. Наш "Корпе" — немаўля ў параўнанні з "Вясёлкай", якую пэўны час і Лось рэдагавала.

...Каюм-ага на хвіліну замоўк. Пасля выйшаў з-за пісьмовага стала, дастаў з шафы знаёмую мне ўжо і раней кнігу. Так, не памыліўся: то зборнічак Лось "Валошка на мяжы". Зборнік, што ўвабраў у сябе паэзію яе апошніх гадоў. Увагу аксакала туркменскай літаратуры да сваёй творчасці Еўдакія Лось адчувала самую сур'ёзную. Ці не таму вершы нашай лірніцы друкаваліся на туркменскай мове ў 1972 годзе ў газеце "Эдебнят ве сунгат" ("Літаратура і мастацтва") разам з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова. А верш "На смерць Берды Кербабаева" напісаны ў форме ліста-звароту да Ата Атаджанава, Каюма Тангрыкуліева, Таўшан Эсенавай. Гэтых народных шахіраў паўднёвай рэспублікі Еўдакія Лось добра ведала, сябравала з імі, ім жа найперш выказала сваю тугу. А кніжку "Валошка на памяць", выдадзеную пасля смерці паэтэсы, Каюму Тангрыкуліеву даслала сястра Еўдакіі — Марыя Якаўлеўна Ярашэвіч, якая клапатліва, чуйна зберагае літаратурную спадчыну паэтэсы.

Шмат парасказваў падчас многіх нашых сустрэч Каюм-ага пра Еўдакію Лось, пра свае ўражанні ад яе паэзіі. Мажліва, некалі тое ўсё стане ці нарысам асобным, ці ўспамінамі, што напіша Каюм Тангрыкуліеў сам.

...Неяк я запазніўся з працы (гэта яшчэ ў Ашхабадзе, зараз, праўда, у туркменскай сталіцы новая назва — Ашгабад). Жыў тады на кватэры з чуйнымі, уважлівымі гаспадарамі. Прыходжу дамоў — кажуць, што некалькі разоў мне тэлефанавалі. Пытаюся, хто. Падаюць шматок паперы з запісаным нумарам. Так, Каюм-ага нечага турбуе. Званю. Падымае трубку сам гаспадар:

... — Еду на Беларусь, рыхтуй землякам гасцінцы...

Памятаю, колькі радасці было ад тае паездкі, ад падрыхтоўкі да яе. Каюм Тангрыкуліеў гадзінамі прымушаў мяне расказваць усё, што толькі ведаю пра сучасную беларускую літаратуру. Ехаў жа ён у Мінск на пісьменніцкі з'езд. Задаволены Каюм-ага пасля расказваў, як добра яго стрэлі ў Беларусі, як шмат што паказалі. Трохі пасуровеўшы з твару, схаваўшы весялосць, Тангрыкуліеў расказаў і пра паездку ў Хатынь. Прачытаў па-туркменску верш, які напісаў яшчэ там, у Мінску. Пазнаёміў і са зместам яго, пераказаўшы твор па-руску. А ў хуткім часе "хатынскі" верш Каюма Тангрыкуліева "Самы вядомы на свеце аул" загучаў і па-беларуску. Пераклад ажыццявіў Рыгор Барадулін.

**Паслухайце, людзі,**
**пачуй мяне, свет, —**
**Як попел Хатыні, пяскі Каракумаў,**
**Нямеў я ад гора, туркменскі паэт,**
**Аулу адно пажадаць я задумаў:**

**Планеце хапіла свінцу за вякі,**
**Гарачы свінец хай не куляй**
**застыне,**
**Хай пойдзе друкарскі свінец**
**на радкі**
**Пра кветкі, пра чыстае**
**неба Хатыні.**

Так заканчвае Каюм Тангрыкуліеў свой верш-споведзь. Творчасць народнага паэта Туркменістана ў большасці сваёй прысвечана дзецям. Вершы яго — сонечныя і светлыя. Вабяць, прыцягваюць яны юных чытачоў многіх краін. Спадзяёмся, што не раз яшчэ загучаць яны і на беларускай мове. Зрабіць гэта трэба і ў адзнаку таго, што сам Каюм-ага знаходзіць час звяртацца да беларускай літаратуры. Вось і яшчэ адзін яго клопат — анталогія перакладаў "Вясёлыя арэлі". Сярод іншых твораў, адрасаваных дзецям, туркменскі чытач знайшоў там і вершы Максіма Танка, Эдзі Агняцвет, Валянціна Лукшы, Івана Муравейкі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ГЭЙ, КІНЬ ГАРАВАЦЬ

Нібыта наперакор стыхіі, што напаткала раёны Беларусі, прыйшоў сюды першы рэспубліканскі фестываль "Музычнае Палессе". Бо не спыняецца жыццё, бо былі ў гісторыі беларускага народа і больш цяжкія выпрабаванні, якія ён вынес з гонарам. А песня, музыка заўсёды дапамагалі яму ў цяжкую часіну.

Вечарам 27 жніўня фестываль стартаваў у Пінску, у суботу 28 жніўня адбыўся яго другі старт — у Мазыры.

Многія вядомыя калектывы, сярод якіх Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь, ансамблі "Сябры" і народнай музыкі "Барыня", магілёўскі тэатр "Мода, музыка і мы", рускі фальклорны ансамбль "Матаня" з Масквы сабраліся на лепшай пляцоўцы старажытнага Пінска. Потым яны раз'ехаліся ў вёскі і пасёлкі Пінскага, Драгічынскага, Іванаўскага, Лунінецкага і Столінскага раёнаў.

— Палессе заўсёды славілася унікальнай музычнай, танцавальнай і фальклорнай культурай, — гаворыць намеснік дырэктара Брэсцкай філармоніі, адна з арганізатараў фестывалю Зоя Шусцікава. — Але падобных музычных святаў у нас яшчэ не было. Так супала, што ў вельмі няпросты час праводзіцца гэты першы фестываль. Вялікая паводка прынесла людзям і вялікую бяду. Але палешукі — народ вельмі працавіты, стойкі і аптымістычны. І мы спадзяёмся, што канцэрты і сустрэчы ў рамках фестывалю прыбавяць ім настрою. Што ж тычыцца фінансавых затрат, то іх у асноўным узяло на сябе Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

На гомельскім Палессі, ва ўсіх сямі пацярпеўшых ад паводкі раёнах, пабывалі прафесійныя і самадзейныя артысты, сярод якіх камерны хор Гомельскай філармоніі, спявачкі Вольга Шутава і Надзея Мікуліч, ансамбль "Былыя часы". Разам з палешукамі ўспомнілі яны абрады, мову, непаўторныя мелодыі краю.

# ВЕРА, НАДЗЕЯ, ЛЮБОЎ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

А ўсё пачалося яшчэ з часоў, калі Галіна была актрысай славутага коласаўскага тэатра. Актыўная, з незалежнымі поглядамі, яна не магла перажыць тыя непазбежныя прастоі, якія нярэдка выпадаюць на долю акцёраў рэпертуарных тэатраў з непамерна раздутымі штатамі. Яна працавала. У коле яе інтарэсаў заўсёды была паэзія. Першая канцэртная праграма — па вершах беларускага драматурга і паэта Яўгена Шабана. Здарылася так, што ў час работы над спектаклем



па ягонай п'есе ў тэатры Яўген памёр, памёр літаральна на вачах артыстаў.

Пасля пахавання Галіна адкрыла зборнік ягоных вершаў... І зразумела, што пайшоў ад нас своеасаблівы, пранізліва-лірычны паэт, да канца не раскрыты і не ацэнены.

Кампазіцыя па яго вершах была данінай памяці Актрысы Паэту.

З гэтай праграмай, калі лёс прывёў Галіну Дзягілеву ў Мінск, яна прыйшла ў філармонію. Тая праграма і вызначыла далейшую творчую дарогу, хоць ніякіх выгод і афіцыйнага прызнання на тым шляху чакаць не даводзілася. Але ў вандроўках па Беларусі Галіна зразумела, што пакрыўджанае наша роднае слова патрэбна людзям! І адчула гэта на першым жа канцэрце ў маленькім клубе нейкага забытага богам маслазавода. Страшэнна хвалявалася, бо гэта быў, па сутнасці, дэбют у новым амплуа.

Шум-гам... Пачала чытаць і адчула, як сціхае зала, як працягваюцца сувязі паміж сцэнай і тымі дзязькамі і цёткамі, што прыйшлі сюды, можа, і выпадкова. А паэзія Шабана ого якая няпростая! Кончыла чытаць — цішыня. Правал?! І раптам гэткі мажны мужчынскі голас: "Ну ты, дзяўчына, нас зачарава-а-ла!"

У гэтую хвіліну не розумам, а сэрцам адчула: яна жывая, наша культура, тая культура, што мацуецца моваю. І, як сорамна было адчуваць, што часта яна, такая прыгожая, мілагучная, не паважаецца. І кім жа? Самімі ж намі! Праблема гэта для актрысы балючая. Гаворачы аб ёй, яна, заўсёды стрыманая і спакойная, гарачыцца.

— А як не хвалявацца?! Мы ў сям'і размаўляем па-беларуску. Зразумела, і на працы, і на вуліцы я таксама звяртаюся да людзей на роднай мове. Здаецца, натуральна: беларуска ў Беларусі гаворыць па-беларуску. А мяне пытаюць — чаму? Вось прынялі мы Закон аб дзяржаўнасці мовы, але зрухаў, на жаль, вельмі мала, павінны быць больш паслядоўнай і рашучай палітыка менавіта дзяржавы ў ажыццяўленні беларусізацыі і асабісты прыклад яе дзяржаўных дзеячаў, асабліва інтэлігенцыі. Я не заклікаю да прымусу. Але кожны сапраўдны інтэлігент павінен (гэта ж так натуральна!) адчуць патрэбу ў нашай прыгожай, мілагучнай мове і перадаць гэтае замілаванне, павагу іншым — вучням, сябрам, суседзям...

Розны жыццёвы матэрыял, творы розных паэтаў, розныя сцэнічныя рашэнні ў спектаклях "Зніча", але, як мне здаецца, аб'ядноўвае іх агульнае — нетрадыцыйны падыход, уменне ў знаёмым убачыць невядомае.

Так было са спектаклем па да апошняга часу не публікаваных вершах Я.Купалы. Не адшліфаванага "песняра" савецкай эпохі, а паэта, які балюча рэагуе на рэчаіснасць і пакутуе ад двухсэнсоўнасці свайго становішча, паказала ў тым спектаклі актрыса. І яшчэ. Кожнай сваёй новай работай актрыса імкнецца ўзняць інтэлектуальны, інтэлігентны пласт нацыянальнай паэзіі. Згадзіцеся, усе мы крыху прытаміліся ад світак ды лапцяў на сцэне! Фальклор — вялікі кантынент культуры, адтуль мы ўсе выйшлі, але ж на Беларусі існаваў, стагоддзямі існаваў надзвычай разнастайны, багаты, арыгінальны зрэз культуры філасофскай, інтэлектуальнай. Гэты кантынгент, на жаль, малавядомы. Ён толькі адкрываецца. Скарына, Гусоўскі, Філіповіч, Будны, Лышчынскі. Філосафы еўрапейскага ўзроўню. Тэатральнае і музычнае мастацтва Беларусі, якое ў XVII—XVIII стагоддзях апярэджвала свой час. Колькі надзвычайных адкрыццяў даў нам фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы". Паэзія М.Багдановіча, Я.Купалы — яна ж па сутнасці сваёй вытанчана-інтэлектуальная, глыбока філасафічная.

Цяпер Галіна Дзягілева працуе над спектаклем пра Івана Луцкевіча, а яе калегі, артысты з іншых тэатраў, рыхтуюць кампазіцыю па "Свіцязанцы" А.Міцкевіча, "Падарожжа ў краіну Уладзіміра Караткевіча", сама ж Галіна разам са сваімі студэнтамі марыць стварыць паэтычны спектакль для дзяцей.

...Зіхатлівае святло тэатральнага юпітэра выхоплівае квадрат маленькай сцэны. Выходзіць жанчына ці то ў нацыянальным касцюме, ці то ў арыштанцкай світцы, ці то ва ўборы старажытнай беларускай князёўны, і пачынаецца паэтычнае падарожжа.

**Тамара АБАКУМОЎСКАЯ.**

## З ГІСТОРЫІ ЧАРНОБЫЛЬСКІХ ВЁСАК

# "РЭКВІЕМ"

**(З гісторыка-тапанімічнага слоўніка "Зоны адчужэння")**

### БРАГІНСКІ РАЁН

**БАГУШЫ**. Былая вёска Астраглядскага сельсавета. Назва вёскі ўтварылася ад асабовага імя Богуш, якое, відаць, было ўласціва ўсім першапасяленцам, заснавальнікам вёскі (адсюль — **Багушы**).

У статыстычным даведніку "Список населенных мест Минской губернии" (Мн., 1909, с. 11; складальнік В.С. Ярмаловіч) адзначана, што ў вёсцы Багушы Мікуліцкай воласці Рэчыцкага павета маецца 128 двароў, пражывае 684 чалавекі.

У 1906 годзе ў вёсцы Багушы (як і ў вёсцы Хатуча) адбыліся хваляванні мясцовых сялян, жорстка падаўленыя казакамі.

Па расказах мясцовых жыхароў, паблізу Багушоў маецца гарадзішча балотнага тыпу (гэты археалагічны помнік не зафіксаваны ў "Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць" (Мн., 1985).

**ВЕЛІМАЎ**, вар. **ВЕЛІМОЎ**. Былая вёска ў Кальбанскім сельсавеце. У статыстычным даведніку Ярмаловіча (1909 год) даны населены пункт пазначаны як фальварак "Вельямов" з адным дваром, 4 жыхарамі. Як можна меркаваць, назва "Вельямов", якая пазней пераафарміласяў **Велімоў**, **Велімаў**, утварылася ад прозвішча ўладальніка фальварка.

У вёсцы Велімаў (Велімоў) застаўся абеліск на магіле ахвяр фашызму (пахаваны 15 мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі).

**ВЯРХОВАЯ СЛАБАДА**. Былая вёска ў Слабодскім сельсавеце. У складаным тапоніме **Вярховая Слабада** азначэнне **Вярховая** ўказвае на размяшчэнне пасялення "ў вярхоўях" адносна суседніх населеных пунктаў, напрыклад, Выграбной Слабады і Савічаў (арыенцірам магло служыць цячэнне рэчкі Брагінкі, недалёка ад якой размешчаны гэтыя пункты). Слова **слабада** мае значэнне "пасёлак", але ж на аснове адной толькі назвы цяжка вызначыць, што канкрэтна абазначала слова **слабада** ў даным выпадку і калі яно замацавалася ў якасці назвы.

Слова **слабада** ў старабеларускіх помніках XVI—XVII стагоддзяў ужывалася ў значэннях "ільгота, вызваленне ад павіннасцей на пэўны тэрмін". У гэты час слабоды актыўна ўзнікалі на каралеўскіх і царкоўных землях. Акрамя таго, слабоды былі вясковага тыпу (іх жыхары займаліся сельскагаспадарчай вытворчасцю) і прамыслова-рамесніцкага тыпу (у іх насельніцтва займалася кавальскай ці сталярнай справай, бортніцтвам, рыбалоўствам). XVI—XVII стагоддзі — найбольш верагодны час заснавання Вярховай Слабады.

У X томе "Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін" (Варшава, 1889. С. 800; на польскай мове) адзначана, што ў Вярховай Слабадзе, вёсцы Рэчыцкага павета, маецца 12 двароў; мясцовасць вельмі нізкая, глеба лёгкая.

**ВЫГРАБНАЯ СЛАБАДА**. Былы цэнтр сельсавета. Азначэнне **Выграбная** ўтварылася ад слова **выграб**, якое звязана з дзеясловам **грэбці** ў значэнні "капаць". Відаць, **выграб** — гэта "абкопанае месца", а **Выграбная Слабада** — "пасяленне, якое абкапана, абкружана землянымі валамі, насыпамі" (параўн. назву сталіцы Харваціі — **Заграб**). (Аб значэнні слова **слабада** гл. пры тлумачэнні назвы **Вярховая Слабада**).

У даведніку "Список населенных мест Минской губернии" (Мн., 1909; складальнік В.С. Ярмаловіч) даны населены пункт пазначаны як "вёска Выграбное", у якой мелася 35 двароў, пражывала 264 чалавекі.

У вёсцы засталася брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан (пахаваны 4 воіны 9-га стралковага корпуса і партызаны атрада імя Р.І. Катоўскага Палескага злучэння, якія загінулі восенню 1943 года пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў); тут жа пахаваны лётчыкі 165-га знішчальнага авіяпалка 286-й дывізіі 16-й паветранай арміі В.І. Ведзянееў і Г.Д. Чарствоў, што загінулі ў кастрычніку 1943 года. У 1978 годзе на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**ПУЧЫН**. Былая вёска ў Слабодскім сельсавеце. У пачатку XX стагоддзя ў вёсцы было 113 двароў, пражывала 536 чалавек (гл.: Список населенных мест Минской губернии. Составитель В.С. Ярмолович. Мн., 1909).

Польскія крыніцы XIX стагоддзя (гл.: Геаграфічны слоўнік Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін. Т. IX. Варшава, 1888. С. 274; на польскай мове) паведамляюць наступнае: Пучын — вёска Рэчыцкага павета Савіцкай гміны; 32 двары; глеба добрая, шмат сенажацей.

У вёсцы застаўся помнік землякам, узведзены на ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Абеліск пастаўлены ў 1980 годзе.

Ёсць два магчымыя напрамкі для тлумачэння геаграфічнай назвы **Пучын.** 1). Гэтае найменне можна лічыць адантрапанімічным, гэта значыць утвораным ад асабовага імя ці мянушкі **Пук** (параўн. прозвішчы тыпу **Пук**, **Пўчок**, **Пучко**, **Пучак**, **Пучык**, **Пуц**, **Пуцык**; гл.: Бірыла М.В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1969. С. 337, 339). Агульнае значэнне асабовых імёнаў **Пук** і інш. — "надзьмуты, моцна "збіты" чалавек", "таўстун". 2). Не выключана і адлюстраванне ў данай назве — **Пучын** — асаблівасцей навакольнага ландшафту — нізін, балоцістых сенажацей. Справа ў тым, што корань **пут** у тапаніміі выкарыстоўваецца для абазначэння балот ці разводдзя (параўн. назву г. Пуцка ў Гданьскім ваяводстве Польшчы; гл.: Рымут. К. Назвы гарадоў Польшчы. Вроцлаў, Варшава, Кракаў, Гданьск, Лодзь, 1987. С. 197; на польскай мове). Можна нагадаць таксама рускае дыялектнае слова "**поть**" — "**пот**, сырая гніль у дрэве" ("Толковый словарь живого великорусского языка" У.І. Даля); **поча** — "лужа, балота, старое рэчышча ракі"; "**поця**" — "лужа, балота" (Етимологичний словник літописніх географічних назв Південної Русі. Київ, 1985. С: 109—110); корань **пот**-, **пет**- рэканструюецца даследчыкамі індаеўрапейскіх моў у значэнні "быць вільготным, цячы".

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

## ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА

Багатым на гастрольныя паездкі выдалася лета для творчых калектываў сталіцы. Геаграфія гастролей даволі разнастайная, але перш за ўсё — гэта сонечная Італія.

Толькі паспеў вярнуцца з Пардэноне Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь, як жыхары гэтага італьянскага горада прыслалі артыстам новае запрашэнне. Цяпер нашы танцоры зноў радуюць італьянцаў. А пасля вяртання на радзіму іх чакае чарговая паездка, на гэты раз у ЗША па лініі ўсеамерыканскай арганізацыі "У дружбе — сіла".

У Італію збіраецца самадзейны калектыў "Траецкія музыкі". У гэтай краіне нядаўна прайшлі гастролі Дзяржаўнага народнага хору імя Цітовіча і Дзяржаўнага беларускага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля "Харошкі". Камерны аркестр філармоніі і навучэнцы музычнага ліцэя выступаюць у Германіі, а Дзяржаўны ансамбль народнай музыкі, песні і танца — у Францыі.

## ПРА ЛЁСЫ СЛАВУТЫХ

Не так даўно Беларускае тэлебачанне прапанавала гледачам серыю перадач "Край", тэмай якіх сталі лёсы нашых славутых землякоў. Амаль кожная з прапанаваных праграм прадстаўляла таго ці іншага дзеяча беларускай культуры, апошняя, заключная перадача цыкла была прысвечана Льву Сапегу. (Героямі папярэдніх серый былі Іосіф Гашкевіч, Саламея Русецкая-Пільштынава, Казімір Семяновіч). Цікавасць выклікала і сама форма цыкла — ужыванне ў мінулае, "засваенне" тагачасных інтэр"ераў, касцюмаў, прычосак. Ролі знакамітых беларусаў выконвалі вядомыя акцёры мінскіх тэатраў, такія, як Аляксандр Лабуш, Святлана Фарыно, Андрэй Душачкін.

## *ВЫСТАЎКА НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ*

Кожны год, калі надыходзіць час убіраць навагоднюю ёлку, упрыгожваючы калючыя галіны рознакаляровымі, яркімі шклянымі шарамі, думала: якім жа было шэрым і бедным свята ў мінулыя часы. Ні табе прыгожых цацак, ні гірлянд з бліскучай фольгі, ні электрычных лямпачак. Бедныя людзі!

Калі прыйшла сёння ў музей Максіма Багдановіча, дзе зараз праходзіць выстава беларускай народнай творчасці, зразумела: усё наадварот, бедныя мы, што прывыклі ўпрыгожваць не толькі навагоднія ёлкі, але і ўвесь наш побыт серыйнымі штампаванымі і нецікавымі рэчамі. А яны, нашы продкі, — якраз і багатыя былі, бо ўмелі не толькі дзіўныя і непаўторныя цацкі з саломы ці гліны рабіць, а кожнаму прадмету свайго побыту надавалі унікальнасць і адмысловы характар.

Ні на момант не сумняваюся, што гэтая выстава задаволіць чалавека нават самага тонкага густу. У адной невялікай зале сабраны рэчы такой высокай мастацкай вартасці, што, нават усё жыццё пражыўшы ў Беларусі і ведаючы, на што здольныя нашы народныя майстры, усё роўна паўгадзіны разглядаеш асляпляльнага каня з саломкі, адшукваючы "швы" і "стыкі". Дарэмна, не знайсці! Нібы адліты з залацістага шкла, пераможны і сонечны, стаіць ён пасярод залы з горда паднятай галавой: вось я, глядзіце і дзівіцеся. Розныя цуды на свеце бываюць, а другога такога не сустрэнеце... "Не сустрэну", — думаю я і напэўна яшчэ многія з наведвальнікаў гэтай выставы. І керамікі такой дзіўнай таксама не сустрэць, і лазы... А што за кветкі тут, што за кветкі! Напэўна таму, што наша прырода не песціла нас яркімі паўднёвымі колерамі і незвычайнымі трапічнымі формамі раслін, і сталі здавён-даўна нараджацца ў руках беларускіх майстроў ні на што не падобныя, але ж непараўнальна прыгожыя карункавыя саламяныя кветкі. Думаю, што калі б упрыгожаны імі капялюш, які вы бачыце на здымку, ўсё ж такі прыбыў да свайго адрасата, англійская каралева была б прыемна здзіўлена. Капялюш прызначаўся ў падарунак падчас афіцыйнага візіту.

Але візіт чамусьці не адбыўся, і капялюш застаўся тут, дома. А можа, і добра, падумалася мне. Так амаль усе экспанаты гэтай выставы можна тут і набыць, але пажадана за валюту. Можна і за "зайчыкі", але каштаваць гэта будзе не танна... Як не зразумець мастакоў, якім зараз, ой, як нялёгка існаваць і працаваць, але ці не набліжаемся мы да тых часоў, калі нацыянальныя беларускія вырабы можна будзе набыць толькі за замежныя грошы? І будуць пасвіцца нашы залатыя коні на чужых палетках, а мы будзем візы афармляць, каб на іх палюбавацца з'ездзіць. А пакуль што кіньце свае будзённыя справы і знайдзіце час, каб зайсці ў невялікі пакой музея Максіма Багдановіча, што ў Траецкім прадмесці ў Мінску, каб яшчэ раз убачыць, на што здольны працавітыя рукі і чулая да прыгажосці душа.

**НА ЗДЫМКАХ: работы з выстаўкі.**





СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# крынічка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Расціслаў БЕНЗЯРУК

## ГРЫБЫ Ў ГОРАДЗЕ

Раніцай дзед разбудзіў Максімку:

— Уставай, унучак! Грыбны дождж прайшоў, баравікоў насеяў.

Хоць і хацелася Максімку спаць, але мігам падхапіўся з ложка, пачаў адзявацца.

Грыбоў і сапраўды ў лесе было шмат. Максімка з дзедам набралі поўны кош падасінавікаў, абабкаў, лісічак. Знайшлі і баравікоў.

— Дзядуля, а што, у горадзе іншы дождж ідзе? — запытаў Максімка, калі вярталіся дамоў.

— Як гэта іншы? — не зразумеў дзед.

— Калі дождж на лес пайшоў, дык грыбоў насеяў. А калі на горад?

— Ах, вось ты пра што! — засмяяўся дзед. — У горадзе таксама грыбы бываюць. Толькі пачнецца дождж, як на тратуарах "грыбы" з'яўляюцца: чырвоныя, зялёныя, блакітныя... Словам, рознакаляровыя.

Задумаўся Максімка, пра якія грыбы дзед гаворыць, а той быццам падказвае:

— У гэтых грыбоў і назва свая ёсць. Праўда, ножыкам іх ніхто не зразае. Пройдзе дождж — і яны самі адразу знікаюць...

Вось дык загадка!

Усміхаецца дзед, гледзячы на ўнука, але маўчыць, не падказвае болей. Сам здагадаецца, нябось.

— Ведаю, дзядуля, пра якія грыбы ты гаворыш! — здаўмеўся нарэшце Максімка.

А вы здагадаліся ўжо, дзеці?

Галіна КАЗЛОВА

## ДОБРЫ ДОЖДЖЫК

**Адчыняе вецер дзверы,**
**Кліча ў хату**
**Дождждык шэры.**
**Дождждык тупае на ганку —**
**Намачыць баіцца**
**Янку.**

## ДЗЯКУЙ, ХМАРКА

**Дзед Пярун**
**Устаў —**
**І ўміг**
**Разагнаў**
**Дзяцей усіх.**
**Плача хмарка —**
**Дождж гусцей,**
**Просіць хмарка**
**За дзяцей:**
**"Не грымі,**
**Сярдзіты дзед,**
**Моцна так,**
**На цэлы свет!"**
**Стала сорамна,**
**Відаць,**
**І Пярун**
**Улёгся спаць.**
**Дзякуй, хмарка!**
**Як гасцей,**
**Цешыць сонейка**
**Дзяцей.**

## ЗАГАДКІ

**Хоць у капелюшы, а галавы не мае.**

(Грыб)

**Поле шкляное, а межы драўляныя.**

(Акно)

**Ляціць — вые, сядзе — зямлю рые.**

(Жук)

Уладзімір КАРЫЗНА

**Не пад'ёмны кран,**
**Ды штосьці**
**Ён ад крана мае:**
**Лёгка,**
**Лоўка на балоце**
**Жабак падымае.**

(Бусел)

**Ночка**
**Яе рассыпала,**
**Сонейка**
**Падабрала.**

(Раса)

**Далёка**
**Лятаюць малодкі,**
**Мёд збіраюць**
**Салодкі.**

(Пчолы)

**Не машына,**
**А зямлю свідруе,**
**Добра ў цемры**
**бачыць,**
**Добра чуе.**

(Крот)

## ЯК МУЗЫКА МЯДЗВЕДЗЯ ГРАЦЬ ВУЧЫЎ

**(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

Была ў аднаго князя вельмі прыгожая дачка. З усяго свету прыязджалі да яе сватацца: і каралевічы, і княжычы, і паны, і падпанкі, а ніхто не мог яе ўсватаць. Як толькі прыедзе хто сватацца да князёўны, стары князь адразу ўмову ставіць: перабыць ноч у адным пакоі з мядзведзем. А мядзведзь той не абы-які! Мову чалавечую разумеў, адно толькі сам гаварыць не мог. Але злосны быў звер — без меры! Зачыняць маладога ў адным пакоі з тым мядзведзем, а назаўтра ад небаракі нават костачак не застанецца.

Прыйшоў аднаго разу ў тое княства вандроўны музыка, дачуўся пра такую праяву і наважыўся шчасця паспытаць.

— Дазволь, — кажа, — найяснейшы княжа, мне з тваім мядзведзем пераначаваць.

— Добра, — смяецца князь, — начуй, калі такі смелы.

Узяў музыка сваю скрыпку і пайшоў у пакой да мядзведзя. Сеў на парожку, закінуў нагу за нагу і стаў іграць.

А мядзведзь у сваім куце сядзіць і толькі круглымі вушкамі стрыжэ ды маленькімі вочкамі здзіўлена лыпае. Ніколі не чуў такіх чароўных гукаў. Слухаў буры тое гранне і пра злосць сваю забыў. Захацелася яму таксама гэтак іграць навучыцца. Не ўтрываў і просіць музыку:

— Навучы ты і мяне, малойча, гэтак на скрыпцы выцінаць.

— З радасцю, — адказвае музыка, — але ж пальцы ў цябе, Мішка, дужа крывыя, не здолееш ты імі струны перабіраць.

Падняў мядзведзь адну лапу, потым другую, зірнуў на свае загнутыя кіпці ды зноў да чалавека:

— А хіба нельга іх як-небудзь выпрастаць?

— Чаму ж, можна, — смяецца музыка. — Толькі трэба ўсадзіць лапы во пад гэту тоўстую бэльку.

Мядзведзь, не доўга думаючы, падцягнуў лапы ўверх, чакае. Хлопец бэльку тую прыпадняў і, як толькі мядзведзь лапы пад яе ўпёр, раз і апусціў бэльку. Зароў мядзведзь ад болю, затузаўся, а лапаў, хоць плач, вырваць не можа.

— Ціха, Мішка, — кажа музыка. — Спроба не хвароба. Іграць буду вучыць. Павісіш тут да раніцы, лепей за мяне выцінаць зможаш. Горкая часам навука, ды хлеб ад яе салодкі.

Раніцою ўвайшоў князь да мядзведзя ў пакой, ажно бачыць: вісіць буры ледзь жывы пад бэлькаю, а музыка сабе спіць у куце, як пшаніцу прадаўшы. Клікнуў князь слугаў, загадаў зняць мядзведзя і разбудзіць хітрага музыку.

Асунуўся мядзведзь, як мех, на падлогу і толькі сапе ды на кіпці пабітыя дзьмухае. А музыка глядзіць на яго, усміхаецца.

— Перахітрыў ты гэты раз майго мядзведзя, — кажа князь. — Але мусіш яшчэ адну ноч прабыць з ім, ужо ў другім пакоі.

Што ж, як кажуць, узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Згадзіўся музыка. А сам пайшоў да вечара ў княжы парк, сеў на лавачку і зайграў на скрыпцы.

Князь жа тым часам загадаў слугам выкапаць у другім пакоі пад самым парогам глыбокую яму і ўсадзіць туды галоднага мядзведзя. А праз яму пакласці вузенькую, як нагою ступіць, кладачку. І калі добра сцямнее, адправіць у той пакой нанач музыку.

Сядзіць наш музыка ў парку, іграе, ночы чакае.

На захадзе сонца выйшла ў парк князёўна. Пачула тое гранне і пайшла, як зачараваная, на дзіўныя гукі. Убачыла маладога гожага скрыпача і ўпадабала яго адразу.

— Добра ты іграеш, малойча, хачу, каб штовечар тут іграў.

Устаў музыка з лавачкі, пакланіўся князёўне:

— Усё жыццё рад бы я табе іграць, мілая князёўна. Ды бацька твой іначай распарадзіўся.

— Не бойся нічога, — кажа князёўна. — Адно як адчыніш дзверы ў той другі пакой, не ступай адразу цераз парог, не спяшайся. Паглядзі, як след, сабе пад ногі.

Падзякаваў музыка князёўне і пайшоў да таго пакоя, дзе яму князь начаваць загадаў. А ўжо сцямнела тым часам. Адчыніў музыка дзверы і, перш чым цераз парог ступіць, добра прыгледзеўся. Ажно бачыць: яма глыбокая адразу пад парогам зеўрае і мядзведзь у ёй на дне сапе, варочаецца. Злаўчыўся хлопец і пераскочыў яму. Стаіўся ў куце, раніцы чакае.

Не паспела яшчэ й развіднець нават, нецярплівы князь хутчэй папёр глядзець, што з музыкам стала. Піхнуў дзверы, дый, забыўшы пра яму пад парогам, шухнуў у яе з усяго маху. Кінуўся згаладалы мядзведзь на князя і давай яго дзерці ды шкамутаць.

Праўду людзі кажуць, не капай ямы другому, бо сам увалішся.

Прачнуўся музыка і, як бач, выскачыў з таго страшнага пакоя і больш ужо ніколі, колькі на свеце жыў, мядзведзя граць не вучыў.

Апрацоўка
Хрысціны ЛЯЛЬКО.



Татаў улоў.

Фота У. ВІТЧАНКІ.

Максім ТАНК

* * *

**Сталі моднымі ласкальныя назоўнікі:**
**Біцюгі квадрыг чыгунных — поні-конікі,**
**Ступы Бабы-Ягі — не ступы, а ножачкі.**
**І паэты — то Сяргейкі, то Валодзечкі.**
**Нат храм велічны Сафіі стаў Сафійкаю,**
**Рэвалюцыя — забавай невялікаю...**
**Знаць, таму і нашы вершыкі ласкальныя**
**Усё больш і больш становяцца лакальнымі.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1256. Падпісана да друку 6. 09. 1993 г.